# БАЦЬКАЎШЧЫНА

Whiterutheіn News Paper „The Fatherland" Authorized bu EUGOM Hq. Civil Affairs Division 1. January 1950, Nr. UNDP 225. Circulation 3500 copies, Responsible Publisher: WLADIMIR BORTNIK. Printed by Georg Jakob, München 8, Pütrichstr 3 a.
Administration Weisruthenischer Zeitung „Backauscuna" (13b) München-Feldmoching, Lager B. 140-6. US-Zone Germany.

Цана 20 н. фэн., для заграніцы—50 н. фэн.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 65 — 27 студзеня 1951 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 4


## Крывавы зьдзек над Беларускім народам

### МАСКВА ПРЫЗНАЕЦЦА ДА РАССТРЭЛУ 13,325 БЕЛАРУСАУ

Для нас не сакрэт, што чырвоная Масква з мэтаю фізычнага вынішчэньня беларускага народу, побач зь іншымі жахлівымі спосабамі крывавага тэрору, практыкавала й практыкуе цяпер масавыя расстрэлы беларусау бязь ніякага суду ані доказу стаулянае ім віны. Масавыя расстрэлы ня у чым нявінаватых людзей на аснове аднастароньняе і у вадсутнасьці абвінавачанага прынятае тайнае пастановы НКВД — гэта адна з найбольш пашыраных праявау савецкае «справядлівасьці»,

Але Масква, асабліва нам іжнародным грунце, катэгарычна аднекваецца ад падобных чынау, заяуляючы, што калі й здараюцца у СССР прысуды сьмерці, то бываюць яны вынесеныя згодна абавязваючых законау, г. толькі пасьля правядзеньня судовае працэдуры й дакладнага устанауленьня віны. І людзі, што жывуць у свабодных дэмакратычных дзяржавах, наіуна верылі у такія тлумачэньні Масквы, ня могучы навет уявіць сабе, каб у наш век можна было бязь ніякіх падставау і бязь ніякіх судовых працэдурау пазбауляць жыцьця ня у чым нявінаватых людзей,

Тымчасам тайныя арыгінальныя дакумэнты савецкай пракуратуры НКВД што папалі у рукі эміграцыйнага ураду БНР, апублікаваныя нядауна прэзыдэнтам БНР М. Абрамчыкам у выладзенай ім у Канадзе брашуры у ангельскай мове п. п. «Я абвінавачваю Крэмль у забойстве майго народу». У гэтых тайных дакумэнтах Масква сама прызнаецца што на працягу толькі двух годоу (1937—38) было расстраляна на Беларусі 13.325 нявінных людзей.

Што-ж гэта за дакумэнты?

Есьць імі абшырны тайны пратакол ад 29 ліпеня — 2 жніveня 1939 г. «Кантрольнай Камісіі», зложанай з памочніка пракурора Ленінградзкай Ваеннай Акругі Колакава, памочніка пракурора Беларускай ССР Дмітракова й Загадчыка Спэцыяльнай Першай Сэкцыі НКВД Беларускай ССР Гарбачэускага, якая, на загад пракурора СССР Панкрацьева ад 23 ліпеня 1939 г., выехала у Менск і правяла сьледзтва дзейнасьці былага заступніка пракурора Бяларускай Ваеннай Акругі А. Кісялева

Гэтая «Кантрольная Камісія» праверыла толькі акты, што знаходзіліся у Менску — у Спэцыяльнай Першай Сэкцыі НКВД БССР, і на падставе гэтага сьцьвердзіла наступнае (цытуем паводля Пратаколу):

«Перагляд наяуных альбомных даведак (г. зн. сьпісак-картатэк.—Рэд.) у Спэцыяльнай Першай Сэкцыі устанавіу што Кісялеу падчас усяго пэрыяду (г.зн. 1927—38 г. —Рэд.) падпісау 11.564 альбомныя даведкі (паводля загаду Но. 00485). Згодна іх было:

Прысуджаных да найвышэйшае меры пакараньня (г, зн. на кару сьмерці 11,009 асобау.
На разные тэрміны — 379 асобау,
Зволънена — 176 асобау,

Там-жа Кісялевым, у складзе Тройкі, было таксама падпісана прыгаворау на 3,045 асобу, зь якіх:

Прысуджана да найвышэйшае меры пакараньня (сьмерці) — 2.316,
На розныя тэрміны — 576,
Зволънена — 154.

Гэта аднак яшчэ ня усе. Камісія, як сказана вышэй, задаволілася толькі праверкай тых справау, што знаходзіліся у Менскім НКВД. Як сьцьвярджае сама Камісія у сваім Пратаколе, «пададзеныя лічбы не адказваюць запраўднаму стану, бо вялікая колькасьць альбомных даведак знаходзіцца у Спэцы-

(Працяг на 4 балонцы)

## САБОРНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

### Божай міласьцю

### Сьвяшчэнны Сабор Япіскапау Беларускае Аутакефальнае Праваслаунае Царквы на Чужыне

Да усечэснага Духавенства, прэпадобнага Манашаства й усіх Богалюбівых Вернікау БАПЦ на Чужыне.

## Улюбленыя у Хрысьце дарагія браты й сестры!

«Слава на вышынах Богу й на зямлі мір сярод людзей добрае волі» (Лк. 2. 14).

Хрыстос раджаецца — радуйцеся!
Хрыстос прыходзіць — Яго слаўце! Няхай сьпяваюць душы й сэрцы Вашы песьню Ангелау у нябесах! Бо вось, сярод бурау і завірухау, гора і бяды нашага выгнанскга жыцьця зьяуляецца на небе нязвычайная — Віфлеемская Зорка, Яна сьветчыць па усей зямлі, што раджаецца Богачалавек — ХРЫСТОС.

Далека, далека ад Віфлеему тры валхвы-Мудрацы у розных, далекіх ад сябе краінах зь вялікім зьдзіуленьнем адначасна спасьцяраглі у цішы ночы Нязвычайную Зорку. Яна вабіла іх сваім цудоуным сьвятлом да сябе і яны пайшлі за Ею. Пайшлі, каб пабачыць, пакланіцца й шчодра абдарыць Таго, Хто толькі што нарадзіуся. Іх дары—золата, ладан і сьмірна былі дарамі ня толькі Чалавеку, але й Сьвятару й Валадару, былі дарамі — БОГАЧАЛАВЕКУ. Яны сьвята верылі, што настау Новы пэрыяд у жыцці людзей — пэрыяд Віфлеемскай Зоркі, Збавіцеля нашага. І яна прывяла іх да Яго — Дзіцятка у беднай Віфлеемскай пячэры. Мудрацы з глыбокай любоую сталі на калені перад Імі праславіушы Яго, з пачуцьцем радасьці й пацехі вярнуліся у свае краіны.

Адначасна сталася й другое нязвычайнае здарэньне. Віфлеемскім пастушкам зьявіліся сьвятыя Ангелы на небе й аавесьцілі ім радасную навіну нараджэньня Збавіцеля нашага й засьпявалі цудоуны гімн Яму й людзям — «Слава на вышынах Богу й на зямлі мір сярод людзей добрае волі». Пастушкі пасьпяшылі да ясьляу, каб пабачыць і пакланіцца Народжанаму Хрысту, Богу нашаму. Таксама ужо ад стагодзьдзяу сьпяшыць наш пабожны Беларускі Народ у гэтую Сьвятую Ноч да Храмау Яго, таксама становіцца на калені перад Ім і з радасьцю слухае цудоуныя словы Ангелау пастушкам: «І сказау ім Ангел: ня бойцеся! бо я вам абвяшчаю вялікую радасьць, што будзе усім людзям: бо цяпер нарадзіуся у Віфлееме Збавіцель, Каторы есьць Хрыстос Гасподзь» (Лк. 2, 10—11).

Гэтыя радасныя словы сьвятых Ангелау аб Нараджэньні Збавіцеля нашага глыбока жылі й жывуць у душах і сэрцах Беларускага Народу. Яны, як той, усякія болі аздарауляючы бальзам, стварылі чароуныя традыцыі нашага абходжаньня гэтага вялікага Сьвята. На Каляду, асабліва-ж вечарам, у душы і сэрцы кажнага з нас пануе цудоуная гармонія, зроджаная гімнам Ангелау у нябесах! Кажны Беларус удома сьпяшаўся у сваю родную хатку з пахушчым сенам на стале — праобразам ясьляу Дзіцятка, каб падзяліць радасьць сваю з сваіві любымі й найбліжэйшымі. у душах і сэрцах іх ужо быу Хрыстос, ужо абыймау іх Ласкою Сваею.

Нажаль, побач пастушкоу і Мудрацоу быу і Ірад. Ен плянавау ужо крывавы злочын супраць Народжанага Хрыста —Сонца Прауды й Справядлівасьці, Дабра, Радасьці й Шчасьця нашага. Але Дзіцятка разам з Прачыстаю Матуляй Сваей і Яе апякуном Іосіфам было цудоуна уратаванае на выгнаньні. Ірад, аднак, лютавау і праліваў кроу нявінных дзетак. Паліліся патокі сьлезау няшчасных мацярок і збылося прароцтва Ерэміі «Голас у Раме чутны, плач навзрыд і лямант вялікі: Рахіля плача па дзецях сваіх і ня хоча уцешыцца, бо іх няма» (Ерэм. 31, 15). Але Ірад супакою не знашоу. Бог сурова пакарау яго.

Улюбленыя Браты й Сестры! Ці не перажываем мы цяпер падобныя часы? Адны ідуць сьледам пастушкоу і мудрацоу да Яго, Хрыста Бога нашага. Другія — сьледам Ірада, Першыя одчуваюць Боскі мір і любоу у сэрцах сваіх і сьпяваюць песьню хвалы Хрысту. Другія — нішчаць гэты мір, праліваюць рэкі крыві і сьлезау кругом сябе і змушаюць мільёны ісьці на выгнаньне Але Ірад няслауна загінуу, а пасьля яго й шмат падобных яму. Разабьецца рассыплецца усякая сіла Ірадау, усякая сіла зла, усякая сіла дзьявала у змаганьні з воінствам Хрыста. Ен пераможна вярнууся з выгнананьня і скора пачалі узносіцца па усей зямлі Сьвятыні Яго; расьсяваючыя цудоуныя прамені Сьвятла, Ласкі, Любві, Радасьці й Шчасьця для людзей. Сьвятыні гэтыя сталіся крыніцаю жыцьцядайнай вады для прагнучых душау іх.

Улюбленыя! Мы, Беларусы, цяпер асабліва будзем дзякаваць Новонароджанаму Хрысту за Ягоную Ласку да нас, бо у шматлікіх краінах сьвету мы збудавалі ужо зь Яго дапамогай нашы уласныя Сьвятыні, нашы БАПЦэрквы. Таму у гэты вялікі Дзень Нараджэньня Збавіцеля нашага на каленях будзем дзякаваць й славіць Яго. Няхай наша любоу да Яго зазьяе яркім полымям і сваімі праменьнямі злучыць нас усіх, дзе бы мы не знаходзіліся. у вадну дружную, брацкую, Богалюбівую сямейку перад ясьлямі Новонароджанага Хрыста, Бога нашага. «Будзьце-ж адзін да аднаго добрымі. спагадлівымі, выбачаючымі адзін аднаму, як і Богу Хрысьце выбачыу вам» Эф. 4, 32).

Яднайцеся усе духам сваім з нашай сьвятой Беларускай Аутакефальнай Праваслаунай Царквой. Няхай Яна станецца нашым Амафорам. нашым Багаславенствам, нашым Збауленьнем. Новонароджаны Хрыстос, Збавіцель наш, паможа нам, каб гэтае наша, мілае Яму, Абъеднаньня пачулі Браты й сестры на нашай любай і пакутуючай яшчэ Радзіме, таксама духова злучыліся з намі у гэты Сьвяты Калядны Вечар і узмоцнілі сэрцы свае. Новонароджаны Хрыстос выслухае малітвы нашы й нашле нам далейшую Міласьць Сваю — паверне нас з нашага ВЫГНАНЬНЯ на нашу родную й вольную зямельку — БЕЛАРУСЬ.

З палымяннаю Верою у Міласердзе Божае, зь непарушнаю Надзеяю на Ласку Яго і шчыраю Любоую да Яго, вітаем Вас, улюбленыя Браты й Сестры зь вялікім Сьвятам РАЖСТВА ХРЫСТОВАГА й з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Будзем маліцца да Яго, Новонароджанага Хрыста, Бога нашага, каб Ен выслухау просьбы нашы—памог нам сьвяткаваць і славіць вялікі Дзень Нараджэньня Яго у наступным годзе ужо пад нашым родным небам, у нованароджанай, слаунай і вольнай Беларусі нашай.

Пасылаем усім Вам нашае Архіпастырскае Багаслауленьне. Узмацняйце й паглыбляйце Веру у Хрыста й сьвяты Крыж Яго у сэрцах Вашых. Няхай Віфлеемская Зорка ставецца нашым правадніком на выгнаньні і дасьць нам шчасьце тут на зямлі й вечнае блажэнства на Небе.

«Урэшце, браты, радуйцеся, рабецеся дасканалымі, пацяшайцеся, будзьце аднадумнымі. у згодзе—і Бог любві і міру будзе з вамі. Ласка Госпада нашага Ісуса Хрыста і Любоу Божая і лучнасьць Сьвятога Духа з усімі вамі. Амінь». (2 Кар. 13.11.13).

СЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЕРГІЙ

Глава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапау Беларускае Аутакефальнае Праваслаунае Царквы

СЬМІРЭННЫ ЯПІСКАП ВАСІЛІ

Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапау БАПЦ на Чужыне.

Дана Року Божага 1950,
месяца сьнежаня,
Аустралія—Нямеччына.

## Будзьма гатовымі!

З мамэнтам збройнага выступленьня чырвонага Кітаю на Далекім Усходзе вупраць сілау Задзіночаных Нацыяу распачалася новая фаза ня толькі у вайне у Карэі, але і у палітычнай сытуацыі цэлага сьвету Гэта абазначае ня больш і ня менш, як тое, што Карэйская вайна ізь лякальнага канфлікту, які дзякуючы удалай афэнзыве збройных сілау ЗН быу блізкі поунай ліквідацыіператварылася у падзею сусьветнага значэньня. Праступны камунізм, які есьць ініцыятарам і рэжысэрам вайны на усходзе й якому усе-ж такі удалося піхнуць у яе Кітай Мао-Тсэ-Тунга, узмацняе сваю правакацыйную дзейнасьць у цэлым сьвеце з мэтаю дасягненьня поунае перамогі над дэмакратычным Захадам.

З другога боку й дэмакратычны Захад, а у першую чаргу Амэрыка, сяньня ужо зразумеу усю сутнасьць маскоускага камунізму й вызбыуся амаль поунасьцю зманлівых ілюзыяу, што коштам бесьцеранпых уступак і кампрамісау можна будзе наладзіць супрацоуніцтва з Савецкім Саюзам і такім чынам захаваць мір.

Узаемадачыненьні паміж дэмакратычным Захадам і камуністычным Усходам сяньня настолькі напружаныя, палітычная сытуацыя сьвету настолькі скамплікаваная й заблытаная, што ня відаць аніякае магчымасьці, каб сяньняшняе міжнароднае палажэньне магло быць унармаванае й устабілізаванае мірным шляхам. Чырвоная Масква здабываецца на што раз новыя правакацыі супраць Захаду, і мамэнт генэральнага збройнага зудару набліжаецца зь нябывалай хуткасьцю.

Вось-жа гэтая акалічнасьць ускладае й на нас беларусау асаблівыя абавязкі, вызначае нам нязвычайна важныя нацыянальныя заданьні. Бо ня трэба й даказваць, што вольнасьць і незалежнасьць нашае Бацькаушчыны можа быць адваяваная толькі у выпадку сусьветнага канфлікту, у выніку якога быу-бы зьнішчаны маскоускі бальшавізм, Але зьнішчэньне бальшавізму яшчэ не абазначае вызваленьня нашага народу й адбудаваньня незалежнасьці нашага Краю.

Ня есьць ніякім сакрэтам, што апрача бальшавіцкага імпэрыялізму дзеяць сяньня іншыя імпэрыялізмы, выразна накіраваныя супраць вольнасьці й не-

(Працяг на 4 балонцы)

